# Свабодны Салігорск

Незалежная газета Салігорска

Выдаецца з верасьня 2006 г. пры інфармацыйнай падтрымцы Салігорскага Маладога Фронта ды сайта saligorsk.org №13

## Беларускія кнігі перададзены ў дзіцячы дом



1 кастрычніка скончылася акцыі "Беларускую кнігу-дзецям", якая цягам месяца ладзілася ў Салігорску зь ініцыятывы мясцовага Маладога Фронту і Руха "За Свабоду". Зь першага верасьня было сабрана 250 беларускамоўных кніжак, асноўная частка-мастацкая літаратура, адпак ёсьць і гістарычныя дапаможнікі, успаміны, размалёўкі. Удзел у акцыі прынялі не толькі актывісты моладзевага дэмакратычнага руху, грамадзкія арганізацыі, адпак й простыя салігорцы.

**Старонка 2**

## Працоўныя «Беларуськалія» выкарыстаюць новую форму пратэсту



Раніцай 2 кастрычніка ў будынка адміністрацыі калійнага гіганта памкнуліся некалькі дзесяткаў чалавек. Не мітынгавалі – проста гутарылі. Аб патрабаваньнях не было ні слова.

У асноўным гэта былі шахтары зь вялікім падземным стажам, чальцы Незалежнага прафсаюза гарнякоў. Вырашылі самім сваёй прысутнасьцю нагадаць: рыхтуемы законапраект аб пэнсійным забесьпячэньні па-ранейшаму ў цэнтры іх увагі.

*Як бачыце, у нас няма ні плакатаў, ні лёзунгаў. Пікет, заяўлены на сёньняшні дзень з нагоды адмены пальготнай пэнсіі нам забаранілі. Таму проста стаім і разважаем. Прычапіцца няма да чаго. Але адміністрацыя выдатна ведае, чаму мы тут,* – гаворыць машыніст камбайна чацьвёртай рудні **Мікалай Зімін**.

**Старонка 3**

## У НУМАРЫ

### Беларусь можа стаць чальцом Эўразьвязу

Беларусь і Ўкраіна маюць магчымасьць стаць чальцамі Эўразьвязу, лічыць сябра Ландтага Паўночнай Рэйн-Вэстфаліі (Нямеччына) Вэрнэр Эстмайэр. Такое меркаваньне нямецкі палітык выказаў на пленарным пасяджэньні партнэрскай канфэрэнцыі "Разам будуем агульнаэўрапэйскі дом" 29 верасьня ў Кіеве.

**Старонка 5**

### НОВАЯ КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА НА ЗЬМІТРА ДАШКЕВІЧА

Стала вядома, што на зьняволенага лідэра "Маладога Фронту" заведзена другая крымінальная справа.

Па словах адваката Аляксандра Галіева, які сёньня ездзіў да сьледчага Лаха, справа была распачата 14 жніўня на падставе таго, што Зьміцер адмовіўся даць паказаньні супраць маладафронтаўца Івана Шылы.

**Старонка 2**

### Салігорск: Лідэр незалежнага прафсаюзу гарнякоў пакінуў працу

Сёньня Рада прадстаўнікоў Незалежнага прафсаюзу гарнякоў (НПГ) падтрымала просьбу старшыні НПГ Міколая Новіка і вызваліла ад абавязкаў "па стану здароўя". Абавязкі кіраўніка НПГ выконвае Іван Пернікаў, які да гэтага быў намесьнікам старшыні.

На чарговай канфэрэнцыі НПГ, якая запланавана на канец лістапада шахтары плянуюць абраць новага лідэра прафсаюзу.

**Старонка 3**

### Ушанаваньне памяці ахвяраў рэпрэсіі

Салігорскі Малады Фронт і Рух "За Свабоду" 29 верасьня наведалі дзьве вёскі Капыльскага раёну, Чорнагубава і Вызна, дзе ў савецкія часы бальшавіцкія ўлады, як і ў шматлікіх іншых месцах нашай шматпакутнай Беларусі, мэтанакіравана вынішчалі наш народ, лепшых яго прадстаўнікоў. Маладзёвыя актывісты Салігорска лічаць сваім абавязкам наведваць месцы пахаваньняў нашых дзядуль і бабуль, што былі беспадстаўна забітыя злачыннымі камуністычнымі ўладамі.

**Старонка 6**

# Беларускія кнігі перададзены ў дзіцячы дом

Сёньня скончылася акцыі **"Беларускую кнігу-дзецям"** , якая цягам месяца ладзілася ў Салігорску зь ініцыятывы мясцовага Маладога Фронту і Руха "За Свабоду". Зь першага верасьня было сабрана **250 беларускамоўных кніжак**, асноўная частка-мастацкая літаратура, адпак ёсьць і гістарычныя дапаможнікі, успаміны, разфарбоўкі. Удзел у акцыі прынялі ня толькі актывісты моладзевага дэмакратычнага руху,грамадзкія арганізацыі, аднак й простыя салігорцы.
Сёньня сабраная літаратура была перададзена ў Старадарожскі дзіцячы дом.
Арганізатары акцыі задаволеныя вынікамі :
*-У параўнаньні зь мінулагодняй акцыяй, гэтым разам актыўнасьць жыхароў гораду была значна большай. Мы спадзяемся, што нашыя акцыя стане яшчэ карыснай і паспрые выхаваньню нацыянальна сьведамай моладзі.*
*Гэтак сама мы выказваем падзяку ўсім неабыякавым людзям, што бралі ўдзел у акцыі, дапамагалі распаўсюджваць інфармацыю.*
*На наш погляд варта адзначыць адміністрацыю сайту* ***"Электронный Солигорск"*** *(www.soligorsk.net)* , ***Згуртаваньне Беларусаў Сусьвету "Бацькаўшчына"***.



# НОВАЯ КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА НА ЗЬМІТРА ДАШКЕВІЧА



Зьміцер Дашкевіч

Стала вядома, што на зьняволенага лідара "Маладога Фронту" заведзена другая крымінальная справа.
Па словах адваката Аляксандра Галіева, які сёньня езьдзіў да сьледчага Лаха, справа была распачата 14 жніўня на падставе таго, што Зьміцер адмовіўся даць паказаньні супраць маладафронтаўца Івана Шылы. Ужо быў праведзены адзін допыт, другі будзе ў чацьвер,таксама адбылася экспертыза почырку Зьмітра. Не выключана, што судовы працэс адбудзецца ў памяшканьні калёніі. З Аляксандрам Галіевым да сьледчага паехаў і прэсавы сакратар "Маладога Фронту" Барыс Гарэцкі. Нагадаем, што максімальны прысуд па гэтым артыкуле – паўгады зьняволеньня.

# У Салігорску аштрафаваны лідэр прадпрымальнікаў

Сёньня суд Салігорскага раёну аштрафаваў сябра аргкамітэту грамадзкага аб'яднаньня "За свабоднае разьвіцьцё прадпрымальнікаў" **Аляксандра Цацуру** на 31 тысячу рублёў.
Судзьдзя Вожава абвінаваціла сп. Цацуру ў парушэньні артыкулу **23.34** ч.1 Адміністрацыйнага кодэксу *(парушэньне парадку арганізацыі масавага мерапрыемства альбо пікетаваньня).*
Паводле сп. Цацуры, сёлета ён сем разоў зьвяртаўся ў Салігорскі райвыканкам па дазвол у арганізацыі мітынгу ці пікету. Кожны раз улада адмаўляла. Падчас падрыхтоўкі да сацыяльных акцыяў 30 верасьня спадар Цацура выкарыстаў вулічныя абвесткі ў выглядзе папяровых аб'яваў на слупах. За гэта і аштрафаваны.

# Пільнаваньне маладафронтаўцаў

З самае раніцы супрацоўнікі міліцыі аладзілі сапраўднае паляваньне на маладзёвых актывістаў Салігорску.
Акрамя людзей, што падавалі заяўкі на пікеты, праваахоўныя органы вырашылі прэзэнтыўна затрымаць мясцовых маладафронтаўцаў. Ля кватэры братоў Шылаў дзяжурыла некалькі міліцэйскіх аўтамабіляў, да **Аляксея Валабуева** прыходзілі і папярэджвалі аб адказнасьці, рухаўца Мілінкевіча **Паўла Батуева** таксама пільнавалі ля дому.
У адрозьненьні ад старэйшых паплечнікаў, Салігорскі Малады Фронт вырашыў не займацца перапіскаю з выканкамам, а наўпрост правесьці 2 пікеты ў падтрымку зьняволенага лідара арганізацыі Зьмітра Дашкевіча.
Для міліцыі гэтыя дзеяньні былі цалкам прагназаваныя, таму ўжо а 10 дэдзьве не затрымалі **Ільлю Шылу**, юнак мусіў вяртацца дадому праз гаўбец. На цэнтральнай плошчы супрацоўнікі міліцыі ў цывільным затрымалі маладафронтаўца **Андруся Тычыну**. У пастарунку ў дачыненьні да маладзёна быў складзены пратакол: традыцыйна зьвінавацілі ў лаянцы матам. Гэтак сама сканфіскавалі 2 расьцяжкі і некалькі соцен улётак. Міліцыянты, у тым ліку сумна вядомы **М.Драбудзька** зьдзекваліся з Андруся, без ніякай нагоды заламвалі рукі.
Праз некалькі гадзінаў зноўку спробы затрымаць актывістаў Маладога Фронту: у цэнтры гораду ў юнакоў сканфіс-коўваюць расьцяжку, пільнуюць ля кавярні, адсоч-ваюць перасоў-ваньні па горадзе.Увечары зноўку міліцыянты выказваюць жаданьне затрымаць групу моладзі са значкамі, нагода-значечнікі, у якіх могуць быць улёткі. Гэта даходіла да вар'яцтва: ля трох юнакоў знаходзяцца 15 міліцыянтаў. .



# Ушанаваньне памяці ахвяраў рэпрэсіі




Салігорскі Малады Фронт і Рух "За Свабоду" 29 верасьня наведалі дзьве вёскі Капыльскага раёну, Чорнагубава і Выня, дзе ў савецкія часы бальшавіцкія ўлады, як і ў шматлікіх іншых месцах нашай шматпакутнай Беларусі, мэтанакіравана вынішчалі наш народ, лепшых яго прадстаўнікоў. Маладзёвыя актывісты Салігорска лічаць сваім абавязкам наведваць месцы пахаваньняў нашых дзядуль і бабуль, што былі беспадстаўна забіты злачыннымі камуністычнымі ўладамі. Моладзь лічыць, што рэпрэсіі мінулага стагодзьдзя мусяць стаць жыцьцёванеабходным досьведам для будучых пакаленьняў. Цяпер пануе ўлада, што ўхваляе злачынцаў, працягвае слаўтыя традыцыі НКУС і ГПУ, зьнішчае наш народ, забіваючы мову, забываючыся на гісторыю й культуру, арыштоўваючы незалежніцкую моладзь. Людзі мусяць ведаць, што сёньняшнія кіраўнікі Беларусі-нашчадкі бальшавіцкіх катаў.

Гэтая ўлада замоўчвае факты рэпрэсій, ня проста не ўшаноўваючы і не рэабілітуючы забітых беларусаў, але й намагаецца выбіць памяць пра генацыд, зьдзекваючыся з месцаў масавых расстрэлаў. Яскравы прыклад-спроба пракласьць аўтадарогу праз Курапаты, дзе закатаваныя тысячы беларусаў.



Больш падрабязны фотарэпартаж глядзіце на http://foto.saligorsk.org

## Белхімпрафсаюз «Беларуськалія» адмяніў свой мітынг

Анонсія акцыі салігорскіх шахтароў прымусілі кіраўніцтва краіны пайсьці ім на саступкі. Мітынг супраць адмены палёгкавых пэнсій, што завецца, апярэдзілі. Прыбылыя ў Салігорск за пяць дзён да гэтай акцыі начальнік галоўнага ідэалагічнага кіраваньня пры Адміністрацыі прэзыдэнта Алег Пралескоўскі і міністар працы і сацабароны Уладзімір Патупчык на сустрэчы з калійшчыкамі і шахтарамі абяцалі не ўшчамляць іх інтарэсаў. Працоўны калектыў РУП "ВА «Беларуськалій» запэўнілі: праект закона «Аб прафэсійным пэнсійным страхаваньні» будзе зьменены.

Гарнякоў хвалявала тое, што людзі, якія працягваюць працаваць у шкодных умовах пасьля выпрацоўкі шкоднага стажу, пазбаўляліся палёгкавой пэнсіі.

Як абяцалі высокапастаўленыя службоўцы, пры другім чытаньні ў Палаце Прадстаўнікоў у закон занясуць карэктыроўку.

Ён у любым выпадку не кране шахтараў і калійшчыкаў, якія ўжо выпрацавалі палову і больш шкоднага стажу.

*– Мы зьбіраліся адстойваць інтарэсы людзей працы да апошняга,* – распавядае намесьнік старшыні Белхімпрафсаюза **Сьцяпан Івашкевіч**. – *Да гэтага шмат месяцаў вялі перапіску, але безвынікова. Мітынг планаваўся на 25 верасьня, разьлічвалі сабраць пяць тысяч чалавек. Кіраўніцтва краіны, верагодна, перапалохалася, наколькі сур'ёзныя нашы намеры.*

Да сказанага варта дадаць і выкліканыя пагрозай адмены палёгак пядаўнія страйкі шахтарскіх брыгад (людзі спусьціліся ў шахты, але здабываць руду ня сталі), заплянаваныя Незалежным прафсаюзам пікеты. Было ад чаго занепакоіцца «вярхам». «Беларуськалій» не які-небудзь дрэваапрацоўчы камбінат, а адно з асноўных валютаздабываючых прадпрыемстваў.

*– Мы пагадзіліся зь менскімі службоўцамі,* – сказаў **Сьцяпан Івашкевіч**.

*– У бліжэйшыя гады шахтары і калійшчыкі не пазбавяцца палёгкавых пэнсій, калі застануцца на працоўных месцах. А гэта галоўнае. Мітынг адменены. Што будзе далей – пакажа час.*

Сапраўды, усё цячэ, усё зьмяняецца. Праз пяць-сем гадоў, магчыма, законы будуць прымаць ужо новыя па ўсіх параметрах людзі, зь іншым сьветапоглядам і далягядам.

А пакуль, як відаць, самым дзейсным сродкам у адстойваньні сваіх правоў для людзей працы па-ранейшаму застаюцца салідарнасьць і, нажаль, масавыя акцыі пратэсту.

Дарэчы, наконт салідарнасьці. На сустрэчу з гасьцямі з сталіцы Незалежны прафсаюз гарнякоў не запрасілі. Верагодна, улады страшная сама думка, што два прафсаюза «Беларуськалія» раптам пачнуць адстойваць інтарэсы працаўнікоў узгоднена, разам, у цчырай садружнасьці.

Ларыса Насановіч

## АБВЕШЧАНЫ ЗБОР СРОДКАЎ НА ПОМНІК АНАТОЛЮ СЫСУ

Камітэт для ўшанаваньня памяці паэта Анатоля Сыса абвясьціў пра грамадзкі збор сродкаў на ўсталяваньне надмагільнага помніка знакаваму паэту пакаленьня "Тутэйшых". Конкурс на стварэньне помніка Анатолю Сысу, які паставяць на ягонай магіле ў роднай вёсцы Гарошкаў, абвясьцілі на пачатку гэтага году. Гаворыць блізкі сябра паэта і каардынатар конкурсу намесьнік старшыні Саюзу беларускіх пісьменьнікаў **Эдуард Акулін**:

*"Калі мы падвялі вынікі гэтага конкурсу, то аднагалосна выбралі эскіз праекту, прапанаваны маладым беларускім скульптарам Генікам Лойкам, таму што ён найбольш адпавядаў канцэпцыі гэтага помніка. Блізкія Анатоля пажадалі, каб у аснову канцэпцыі лёг сымбаль хрысьціянскага крыжа, што, па сутнасьці, і зрабіў Генік Лойка".*

Дзеля рэалізацыі праекту знайшлі ва Ўкраіне і прывезьлі на адзін зь менскіх мастацкіх камбінатаў чорны граніт. Рабочыя ўжо пачалі выразаць зь яго помнік.

*"Даем абвесткі пра тое, каб прыхільнікі творчасьці Анатоля Сыса, тыя, хто яго ведаў, хто памятае, хто любіць Беларусь так, як любіў яе пры жыцьці Анатоль, адгукнуліся на гэтую высакародную справу",* — сказаў **Эдуард Акулін** і дадаў, што ахвотныя ахвяраваць сродкі на помнік Анатолю Сысу могуць зьвярнуцца ў аргкамітэт праз тэлефон **8-0297-68-56-14.**

Аргкамітэт спадзяецца, што помнік на магіле Анатоля Сыса будзе з дапамогай грамадзкасьці ўсталяваны да трэцяй гадавіны ягонай сьмерці — у траўні 2008 году.

## Як жа яны ўдзесяцёх будуць жыць у трох пакоях?

У Салігорску ў пачатку верасьня мінуў сэмінар, у цэнтры ўвагі ўдзельнікаў якога было пытаньне аб месцы жанчыны ў грамадстве. На сэмінары прысутнічалі делегацыі ад прафарганізацый Магілева, Менска, Наваполацка, Мазыра. Былі госьці і з замежжа – Галяндыі.

Падчас знаёмства з горадам удзельнікі сэмінара наведалі Салігорскі цэнтар дзіцячай творчасьці і, на яго базе, адзіны ў Беларусі музэй маці.

Падчас знаёмства з салігорскімі шматдзетнымі сем'ямі пасродкам фатаграфій наладжвальнікі экскурсіі паведамілі, маўляў, вось гэтай сям'і з нараджэньнем восьмага дзіцяці ПА "Беларуськалій" падарыла трохпакаёвую кватэру.

Спадарыня **Герых Вандэрвен** з Галяндыі не стрымалася і выклікнула: *"О госпадзі, як жа яны ўдзесяцёх будуць жыць у трох пакоях?!"*.

Таксама здзівіла замежных госьцяў і строгая скіраванасьць экспазыцыі музэя маці. *"А дзе ж бацькі? – здзівіліся яны. – Няўжо яны не ўдзельнічаюць у выхаваньні дзяцей? Абодвух бацькоў трэба хахаць аднолькава"*.

## Тэлеканал «Белсат» пачне працаваць 10 снежня

Беларускі спадарожнікавы тэлеканал пачне вяшчанне 10 снежня, калі ў свеце адзначаецца Дзень правоў чалавека.

Пра гэта 22 верасня паведаміла дырэктарка канала Агнешка Рамашэўска падчас канферэнцыі "Polska pomoc zagraniczna". Канферэнцыя была арганізаваная Міністэрствам замежных справаў Польшчы, паведаміла "Радыё Рацыя".

Агнешка Рамашэўска расказала, што вяшчанне будзе ажыцьцяўляцца 16 гадзінаў у суткі. Афіцыйнай мовай канала будзе беларуская .

## Завод па перапрацоўцы адыходаў пабудуюць у Салігорску

У выкананьне даручэньняў урада зараз прапрацоўваецца пытаньне будаўніцтва завода па перапрацоўцы камунальных адыходаў у Салігорску. Праект "Комплекс па перапрацоўцы ТБА ў горадзе Салігорску" ужо распрацаваны. У ім прадугледжваецца сартаваньне паасобна сабранай другаснай сыравіны, яго першасная апрацоўка (прасаваньне, драбненьне), а таксама тэхналёгія перапрацоўкі зьмяшаных адыходаў, пакінутых пасьля паасобнага збору (кампаставаньне біялягічных адыходаў, апрацоўка рэшткавых адыходаў).

Зараз вядзецца пошук крэдытораў будаўніцтва завода ў Салігорску сярод замежных партнэраў.

На стане на 1 верасьня, усяго ў Менскай вобласьці перапакавана 752,7 тоны непрыдатных пестыцыдаў, з іх 182,8 тоны вывезена для ўтылізацыі ў Гомель. 573 тоны спакавана ў тару міжнароднага ўзору.

**Паводле esoligorsk.net**

## Службоўцы баяцца выкрыцьця



Салігорскі райвыканкам забараніў правядзеньне мітынгу супраць чыноўніцкага бязьмежжа.

Адна з асноўных мэт масавага мерапрыемства, заяўленага на 18 верасьня, гучала так: «Інфармацыя аб выпадках самаўпраўнасьці і парушэньні закона з боку службоўцаў розных узроўняў».

– *У нас ёсьць шмат інфармацыі на гэтай нагодзе,* – сказаў адзін з падпісантаў заявы на мітынг **Аляксандр Цэцура**. – *І ў рэспубліканскім маштабе і на мясцовым узроўні досыць фактаў, калі «слугі народа» не цырымоняцца з законам, дапушчаюць самаўпраўнасьць. Вось і хацелася б, каб народ ведаў гэтых «герояў» і іх «хвалебныя» справы.*

Без сумневу, на гэты мітынг гарадзкае не тое, што пайшлі, лінулі б. І высновы зрабілі адпаведныя.

Хоць тэматыку мерапрыемства папроста з апазыцыйнай не зьвяжаш, але на пытаньне, чаму не дазволілі мітынг, намесьнік аддзела ідэалёгіі Анатоль Казакевіч стандартна адказаў:

– На стадыёне 18 верасьня заплянаваныя масавыя спартовыя мерапрыемствы.

Спорт, відаць, у Салігорску найвышэй усяго. Напамінаў той цялкі, абы галава не думала.

**Ларыса Насановіч**

## Новыя крымінальныя справы супраць «Маладога Фронту»




Чарговая крымінальная справа была распачатая сёньня супраць актывістаў незарэгістраванага Маладога Фронту у Гомельскай вобласьці.

Маладафронтавец са Сьветлагорску Арсень Ягорчанка і ягоны аднадумец са Жлобіну Кірылы Атаманчыка падазраюцца ў дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Сёньня па месцы жыхарства хлапцоў мясцовыя упраўленьні Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі правялі ператрусы.

Распавядае **Кірыл Атаманчык**: *"Камітэтчыкі прыйшлі мне паставаць абшук і канфіскавалі ў мяне некалькі сьцягоў, прыватныя фотаздымкі й сыстэмны блок камутара"*.

Нагадаем, што гэта ўжо адзінаццаты выпадак выкарыстаньня 193-га артыкулу КК супраць маладафронтаўцаў. Да гэтага па такіх жа самых абвінавачаньнях былі асуджаныя **Зьміцер Дашкевіч**, які атрымаў 1,5 годы турэмнага зьняволеньня, а таксама **Зьміцер Хведарук, Барыс Гарэцкі, Наста Палажанка, Аляксей Янушэўскі, Алег Корбан, Іван Шыла, Наста Азарка і Яраслаў Грышчэня**, усе з каторых атрымалі штрафы ад 30 да 40 базавых велічыняў.

**Прэс-служба МФ**

Свабодны Салігорск

Сувязь: 370-02-04 , 370-02-05 , saliborsk@gmail.com , http://gazeta.saligorsk.org

Газета "Свабодны Салігорск". Адказнасьць за зьмешчаныя матэр'ялы нясуць аўтары.
Галоўны рэдактар : Жылінскі Я.Т. , Шэф-рэдактар : Рыманоўскі А.Б., Сакратар рэдакцыі : Захарчук А.У.., Галоўны прабіральшчык : Лімонаў В.К. Надрукавана на асабістым абсталяваньні Генералісімуса Драбудзькі М.М. , Калумбія , г. Кукута , вул Дон Хуана ,д. 1917 , кв. 7 .